**Працягваецца падпіска на «Газету Слонімскую» на жнівень — снежань 1998 года**


# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

№ 29 (58). Слонім. 16 ліпеня — 22 ліпеня 1998 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік Кошт свабодны


## СЛОНІМЕЦ ПАБЫВАЎ НА РАДЗІМЕ НАПАЛЕОНА

Наш зямляк, калекцыянер, стваральнік музея вайсковага строю і атрыбутыкі пры слонімскай брыгадзе Міхаіл Харчанка (*на здымку ў цэнтры*), нядаўна пабываў на радзіме Напалеона — на востраве Корсіка.

(***Пра яго ўражанні ад падарожжа чытайце на 3 стр.***)



## ДОЖДЖ НЕ ХАЦЕЎ СЦІХАЦЬ...

**10 ліпеня ў цэнтры Слоніма на тэрыторыі брацкай магілы савецкім воінам-вызваліцелям адбылося перазахаванне астанкаў шасці салдат другой сусветнай вайны.**

Перазахаванне было прымеркавана да дня вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Астанкі салдат былі знойдзены ў раёне камвольна-прадзільнай фабрыкі. Удалося ўстанавіць прозвішча аднаго з іх. Гэта — Уладзімір Зайкоўскі з Магілёўшчыны. Былі адшуканы і яго сваякі, але, на жаль, яны не змаглі прыехаць у Слонім на перазахаванне.





Нягледзячы на дрэнное надвор'е, да брацкай магілы прыйшлі сотні людзей. А ў 10.50 да месца перазахавання падышла жалобная калона — на БТР-ы стаяла труна з астанкамі воінаў, яго суправаджаў ганаровы эскорт з вайскоўцаў слонімскай брыгады. Было шмат вянкоў і кветак.

Ледзь толькі на мітынгу была аб'яўлена хвіліна маўчання, як пайшоў дождж. Нібыта сама прырода аплаквала ахвяраў вайны... А пасля быў традыцыйны салют, прамовы, адпяванне загінуўшых салдат праваслаўным святаром і дождж, які не хацеў сціхаць...

**Сяргей ЁРШ**



**НАВІНЫ**

### Слова ўладзе

**Гарвыканкам дазволіў вытворчаму аб'яднанню жыллёва-камунальнай гаспадаркі рэарганізаваць дарожна-эксплуатацыйны і гаспадарча-разліковы ўчасткі ў адну структуру — дарожна-эксплуатацыйнае прадпрыемства.**

Разам з тым, Алег Лакцюшын на апошнім пасяджэнні гарвыканкама рэзка пакрытыкаваў работу камунальнікаў за тое, што яны не ўмеюць зарабляць грошы для патрэб горада.

У прыватнасці, ён адзначыў, што прадпрымальнікі маюць высокі прыбытак, кантралюючы аўтастаянкі і займаючыся еўрарамонтам, а камунальнікі, па словах мэра, не праяўляюць у гэтай сферы дзейнасці ніякай ініцыятывы.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Цены будут прежние

**Закупочные цены на зерно остались на уровне прошлого года. Об этом заявил председатель комитета хлебопродуктов министерства сельского хозяйства и продовольствия Беларуси Михаил Петрашкевич.**

По его словам все зерноприемные пункты республики готовы к поступлению зерна нового урожая. Основные трудности — это финансовое состояние предприятий отрасли. Прокредитовав в феврале за счет банковских кредитов 50 процентов стоимости нового урожая, что составило 3,6 триллиона рублей, сегодня отрасль ежемесячно выплачивает по процентам более 100 млрд. рублей. Кроме того, считает Михаил Петрашкевич, под остальную часть урожая тоже придется брать кредиты, что может резко повысить цены на зерно, а затем — на все продукты его переработки. Закупочная цена на зерно урожая 1998 года составит примерно 145 долларов за тонну, из расчета курса 31700 руб. за 1 доллар.

**БелаПАН**

### Чым будзем жаць?

**Да пачатку жніва застаюцца лічаныя тыдні. Тым не менш, як паведаміў карэспандэнту "ГС" галоўны інжынер райсельгасупраўлення Іван Арочка, па стану на 7 ліпеня адрамантавана толькі каля 70 працэнтаў усіх збожжаўборачных камбайнаў.**

Галоўная прычына таму — адсутнасць у калгасаў і саўгасаў грошай, каб купіць запчасткі, якіх на базе хапае. Яшчэ складаней набыць новую тэхніку. Напрыклад, новы камбайн "Дон" цяпер каштуе ад 7 да 10 мільярдаў рублёў. Сёлета толькі адзін калгас імя Суворава здолеў набыць такі камбайн. Яшчэ два "Доны" павінны былі быць дастаўлены ў калгасы "Прагрэс" і "Чырвоны партызан". Але паколькі завод "Растсельмаш" зараз прастойвае, пастаўка затрымліваецца, хоць грошы за камбайны даўно прадпрыемству пералічаны. Шмат праблем існуе і з рамонтам сушыльнай тэхнікі. І калі сяляне не паспеюць яе падрыхтаваць да жніва, то ва ўмовах дажджлівага надвор'я могуць быць значныя страты ўраджая, — лічыць галоўны інжынер райсельгасупраўлення Іван Арочка.

### Рынак, ён і ў лесе рынак

**Цяпер у раёне дзейнічае шэсць пунктаў лясгаса па прыёму грыбоў і ягад ад насельніцтва.**

На перапрацоўваючыя заводы ўжо адпраўлена паўтары тоны лісічак і тона чарніц.

Канкурэнтамі лясгаса з'яўляюцца прыватныя прадпрымальнікі, якія за дары лесу плоцяць значна больш, чым лясгас.

Цяпер цана на грыбы вагаецца ад 60 да 85 тысяч рублёў за кілаграм, на ягады — ад 23 да 28 тысяч.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**ФОТАРЭПАРТАЖ** *Мікалая СУПРУНА*

## СВЯТА ПРАЦЫ Ў ЖЫРОВІЧАХ



**Такое свята ў нас на Слонімшчыне бывае адзін раз у год. Нехта нават пажартаваў, што працуем мы ўвесь год, а адпачываем толькі адзін дзень. Такі адпачынак сёлета прайшоў у мінулую нядзелю, 12 ліпеня, у Жыровічах. Якраз ён супаў з праваслаўным святам Пятра і Паўла. Вяскоўцы з такімі імёнамі, відаць, нацешыліся ўволю.**

**Свята адкрыў старшыня райвыканкама Станіслаў Здановіч. З яго рук лепшыя сельскія працаўнікі атрымалі граматы і грашовыя падарункі.**

(***Працяг на 2 стр.***)



**ЗДАРЭННІ**

### Цішэй едзеш...

**У нядзелю, апоўдні, на вуліцы Касаўскі тракт адбылася аварыя.**

"Аудзі-100", рухаючыся на вялікай хуткасці, уляцела ў кювет і перакулілася. На шчасце, вадзіцель іншамаркі С. і яго маладая сяброўка не пацярпелі. Яны хутка зніклі з месца здарэння, пакінуўшы пабітае аўто.

Самае цікавае тое, што адразу пасля іх з аўтамабіля зніклі нумарныя знакі.

Машына ў кювеце ляжала 4 гадзіны, пакуль яе не адбуксіравала ў невядомым напрамку тэхніка аднаго вядомага прадпрыемства горада.

**Валодзя ЯНЧУК**

### Смерць на шашы

**Ноччу п'яны вадзіцель мікрааўтобуса "Фольксваген-Транспарцёр", слесар слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыкі, збіў веласіпедыста.**

Ад атрыманых траўм 17-гадовы жыхар вёскі Васілевічы Аляксандр Г. памёр на месцы здарэння. Вінаваты ў трагедыі затрымaны і знаходзіцца пад следствам.

### Бойся дрэва

**Рабочы лясгаса атрымаў цяжкія калецтвы на тэрыторыі Парэцкага лясніцтва.**

Калі ён знаходзіўся ў лесе, нечакана яму на галаву ўпала сухое дрэва. Мужчына знаходзіцца ў бальніцы.

**Сяргей ЁРШ**

НАВІНЫ

# ЖИЗНЬ СТАНОВИТСЯ КОРОЧЕ

**По данным Министерства статистики и анализа, по состоянию на 1 января текущего года в республике проживало 10 миллионов 204 тысячи человек.**

В том числе 4 миллиона 761 тысячи мужчин и 5 миллионов 443 тысячи женщин. Если сравнивать численность населения с 1996 годом, то оно уменьшилось на 61 тысячу человек.

Стало больше в республике людей пенсионного возраста. Если в 1989 году их было 1 миллион 984 тысячи, то на начало нынешнего — уже 2 миллиона 176 тысяч человек.

В тоже время, уменьшается число детей в возрасте до 16 лет. В 1989 году их было 2 миллиона 483 тысячи, а сегодня только 2 миллиона 246 тысяч. Падает и продолжительность жизни. В 1989 году она составляла в среднем по республике 71,8 года, по данным же за 1997 год — уже 68,5.

# СЛОНІМСКІЯ ГАНДЛЯРЫ І МІЛІЦЫЯНЕРЫ ЛЮБЯЦЬ СПОРТ

**У Гродна слонімская каманда перамагла ў агульнакамандным заліку на абласной спартакіядзе сярод работнікаў гандлю.**

Асабліва вызначыліся нашы землякі ў спаборніцтвах па гіраваму спорту, армрэстлінгу і перацягванню каната. Сярод гіравікоў выдатныя вынікі паказалі слонімцы Іван Хілімончык і Дзмітрый Кандрацюк. У турніры па армрэстлінгу мацнейшымі былі Вадзім Зіневіч і Валерый Антановіч. Усе пераможцы і прызёры былі ўзнагароджаны граматамі і каштоўнымі падарункамі.

А вось каманда Слонімскага ГРАУС была трэцяй у абласной міліцэйскай эстафеце. У ёй удзельнічалі гродзенскія каманды і дзве з раёнаў — Слонімская і Смаргонская, якія раней перамаглі на занальных спаборніцтвах. Міліцыянеры не толькі стралялі з пнеўматычнай вінтоўкі і разбіралі пісталет Макарава, але і ездзілі на веласіпедах, бегалі ў цяжкіх бронекамізэльках і касках.

**Алег ТАЧОНЫ**

# ЦЫГАНЕ ОБЪЕДИНЯЮТСЯ

**С начала нынешнего года действует белорусская ассоциация цыган «Рома», зарегистрированная в министерстве юстиции республики.**

Президент-барон ассоциации Владимир Матвеев заявил, что в стране проживают около 40 тысяч цыган. По его словам, ассоциация призвана способствовать сохранению и развитию цыганского языка, возрождению традиционных обычаев, ремесел и костюмов, формированию у подрастающего поколения уважения и бережного отношения к историческому прошлому цыган как составной и неотъемлемой части общенациональной культуры Беларуси.

**БелаПАН**

ФОТАРЭПАРТАЖ Мікалая СУПРУНА

# СВЯТА ПРАЦЫ Ў ЖЫРОВІЧАХ



**А слонімскія артысты весялілі прысутных песнямі і музыкай.**

**Але якое свята бывае без чаркі і без каўбасы? Таму ў Жыровічах хапала ўсяго, але самае смачнае можна было купіць у ларках слонімскага мясакамбіната.**

**Тыя, хто любіць спорт, таксама не сумавалі. Асабліва ўсіх парадаваў турнір сярод вяскоўцаў па футболу.**

**Праўда, публіку час ад часу турбаваў дождж. Тым не менш, свята адбылося і хочацца спадзявацца, што праз год яно зноў прыйдзе на Слонімшчыну. Спадзяемся таксама, што разам з ім вернецца ўсё тое добрае і цікавае, што было на ранейшых святах і адсутнічала сёлета.**












ІНФАРМБЮРО

# ВКЛАДЫ БУДУТ КОМПЕНСИРОВАНЫ

**С 21 июля 1998 года Слонимский филиал АСБ "Беларусбанк" начинает принимать от граждан заявления на погашение обесцененных вкладов и выкуп облигаций целевого беспроцентного займа 1990 года на приобретение товаров длительного пользования.**

В первую очередь оформить компенсацию вкладов и облигаций смогут следующие категории граждан:

– родственники военнослужащих, погибших при исполнении служебных обязанностей,

– лица, награжденные орденами и медалями в годы войны,

– лица, награжденные знаком "Жителю блокадного Ленинграда",

– лица, достигшие пенсионного возраста, которым в этом году исполнилось 75 и более лет.

На досрочный выкуп государственных компенсационных облигаций имеют также право граждане, нуждающиеся в улучшении жилищных условий.

Компенсационные суммы будут зачисляться на специальные накопительные счета. Однако эти деньги можно использовать только для безналичных платежей за работы, услуги, на погашение кредитов, реконструкцию и покупку жилья, а также для погашения льготных кредитов на указанные цели.

Граждане, которые не относятся к вышеназванным категориям, могут пока не торопиться бежать в банки за компенсацией. Погашение их вкладов и облигаций предусмотрено на более поздний срок. Однако при желании они могут узнать сумму начисленных компенсаций, если обратятся в банк с письменным заявлением.

## Чэкі можна рэалізаваць

*Паважаная рэдакцыя!*

*Я так і не здолеў рэалізаваць чэкі "Маёмасць". Ці існуюць інвестыцыйныя фонды, якія яшчэ прымаюць гэтыя чэкі?*

**3 павагай, Віктар Канстанцінавіч МЫСЛІВЕЦ**

*Два гады назад атрымаў 100 чэкаў "Маёмасць". Да цяперашняга часу я не ведаю, куды іх можна ўкласці?*

**Яўген РУДНЕЎ**

Як паведаміла карэспандэнту "ГС" супрацоўніца Слонімскага філіяла ААБ "Беларусбанка" Яўгенія Лісавец, банк праводзіць абмен чэкаў "Маёмасць" на акцыі 38 акцыянерных таварыстваў Беларусі. У ліку іх чатыры акцыянерныя таварыствы нашага горада: КПФ, аўтарамонтны завод, ільнозавод і вытворчае аб'яднанне "Сельгасхімія".

Калі бацькі хочуць падараваць чэкі сваім дзецям, то ў натарыяльную кантору звяртацца не трэба. Варта пайсці ў любое аддзяленне філіяла ААБ "Беларусбанка", дзе вам выпішуць сертыфікат на імя новага ўладальніка чэкаў.

# "НАРОД, ЯКІ ЗАБЫВАЕ САВЁ МІНУЛАЕ, НЕ МОЖА СТВАРЫЦЬ БУДУЧАЕ"

**Нядаўна ў Гродна прайшла рэгіянальная краязнаўчая канферэнцыя, у якой удзельнічаў слонімскі гісторык Ігар Падгарадзецкі.**

Сёння ён расказвае, чым была абумоўлена неабходнасць гэтай канферэнцыі.

— Вядома, што патрыятычнае выхаванне пачынаецца з вывучэння гісторыі сваёй сям'і, вуліцы, вёскі. Чалавек павінен ведаць, адкуль яго карані? Адкуль пайшло яго прозвішча? У нас згублена паняцце «малой Радзімы». Мы не ведаем мясцовых абрадаў, песень, звычаяў... Калі мы сапраўды імкнемся да дзяржаўнай незалежнасці, то трэба першачаргова рэанімраваць менавіта любоў да малой Радзімы. Трэба не толькі вывучаць, прапагандаваць, але і берагчы культурна-гістарычную спадчыну, якая яшчэ засталася. На канферэнцыі выращылі аб'ядноць усіх краязнаўцаў заходніх рэгіёнаў Беларусі. Створана новае таварыства імя Тэадора Нарбута (1784-1864) — вядомага беларускага гісторыка і этнографа. Трэба адзначыць, што на працягу пяці апошніх гадоў краязнаўчая асацыяцыя правяла шэраг навуковых канферэнцый у Свіслачы, Косаве, Іўі, Навагрудку, Ваўкавыску, Дзятлаве, Шчучыне і ў іншых гарадах Беларусі. У некаторых гарадах гэтыя мерапрыемствы прайшлі двойчы і тройчы.

Некалькі гадоў запар краязнаўцы вобласці імкнуцца правесці падобную канферэнцыю ў Слоніме. Але, як адзначыў у сваёй справаздачы старшыня гродзенскай краязнаўчай асацыяцыі Андрэй Майсёнак: "Слонім — непрабіваемы бастыён. То ва ўладаў грошай няма на гэта, то адказваюць, што ёсць больш важныя справы". Ініцыятыва з Гродна так і не знайшла падтрымкі ў Слоніме. Нехта з залы нават кінуў рэпліку: "Давайце праводзім канферэнцыю па гісторыі Слоніма ў Гродна. Хай ім там будзе сорамна!".



ГАРТАЮЧЫ СТАРЫЯ ГАЗЕТЫ

## Здарэнне ў Альбярціне

На хату аднаго мужыка, што жыве ў вёсцы Альбярцін Слонімскага павету Гродзенскай губерні, напалі тры грабежцы. Яны патрэбавалі грошай і пры гэтым паранілі гаспадыню. Падняўся гвалт, і рабаўнікі паўцякалі, але пазней іх злавілі.

**Наша Ніва, №36, 21 спежня 1907 г.**

## Трыццаць гадоў назад

Там, дзе быў у Слоніме рынак і гандлёвыя крамы (цяпер плошча Леніна — "ГС"), заложаны малады парк. У горадзе шмат новых пяціпавярховых дамоў. Новыя дамы з і 5 павярхаў будуюцца на Ружанскай і Беластоцкай шашы. На месцы праваслаўнага сабору — купы руін. Касцёл, які стаяў над гандлёвымі радамі, таксама стаіць у руінах, але ў адным уцалеўшым памяшканні адбываюцца багаслужбы. Альбярцін ужо зросся са Слонімам. Цэркны, дзе адбываюцца багаслужбы, існуюць у мястэчку Азярніца, Міжэвічы і Пераналоцы. У Жыровіцах у кляштары адбываюцца багаслужбы, як і раней. Пілігрымы прыходзяць пакланіцца цудатворнай іконе Божай Маці Жыровіцкай з вельмі далёка. У гэтай мясцовасці дзейнічае крыніца са святой вадой. У кляштары жывуць 7 старых манахаў з архімандрытам.

**Беларускі голас (Таронта, Канада) № 158, сакавік 1968 г.**

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ



НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ АДЫШЛІ НАЗАЎЖДЫ:

| | |
|---|---|
| **Маржацкі** Станіслаў Іванавіч | 1934 г.н. |
| **Шэрстнёва** Ірына Піліпаўна | 1916 г.н. |
| **Хрэшчыкава** Зінаіда Мікалаеўна | 1924 г.н. |
| **Біч** Міхаіл Мікалаевіч | 1954 г.н. |

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі:
231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэл. 2-14-39.
E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 15 ліпеня 1998 г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 6.700 экз.
Заказ №2042

ЧЕСТЬ ИМЕЮ

НАША ІНТЭРВ'Ю

# ГВАРДЫЯ НЕ ПАДВЯДЗЕ

Сёння сваімі разважаннямі пра маючую адбыцца ваенную рэформу дзеліцца камандзір Слонімскай брыгады палкоўнік Іван Чаус.

***— Іван Іванавіч, адным з аспектаў ваеннай рэформы прадугледжваецца скарачэнне колькасці асабовага саставу. На вашу думку, наколькі гэта апраўдана?***

— Над канцэпцыяй рэформы арміі працавалі кампетэнтныя людзі, якія, відаць, прыйшлі да высновы, што нявартa ўтрымліваць вялікі штат узброеных сіл у мірны час. Магчыма, сапраўды лепш стварыць мабільныя брыгады, якія змогуць выконваць пастаўленыя задачы падчас ваеннай небяспекі для краіны. А цяпер хачу адзначыць, што ў нашай механізаванай брыгадзе існуе некамплект афіцэраў і прапаршчыкаў. Не хапае менавіта камандзіраў узводаў, намеснікаў камандзіраў рот. Гэта трывожыць мяне, як камандзіра брыгады.

***— У сувязі з гэтым, якія захады прымаеце, каб вырашыць гэту праблему?***

— Праз ваенкаматы мы запрашаем на службу асоб, якія звольніліся са службы некалькі гадоў таму назад і яшчэ могуць па стану здароўя служыць у арміі. Прымаем таксама маладых афіцэраў, якія па нейкіх прычынах звольніліся са службы ў іншых рэспубліках СНД і прыехалі жыць у Слонім.

***— На ваш погляд, ці дастаткова тых сродкаў, што выдзяляюцца брыгадзе для падтрымання высокай баявой гатоўнасці?***

— Летась мы адчувалі недахоп сродкаў па ўсіх артыкулах забеспячэння жыццядзольнасці і боегатоўнасці брыгады. Сёлета становішча карэнным чынам змянілася: на патрэбы вайсковых падраздзяленняў было выдзелена сродкаў значна больш мінулагодняга. І гэта дало станоўчыя вынікі. Перш за ўсё мы не адчуваем дэфіцыту гаручазмазачных матэрыялаў, прадуктаў харчавання і медыкаментаў. У выніку палепшылася і матэрыяльнае забеспячэнне ўсіх часцей брыгады. Вядома, што высокага баявога майстэрства нельга дасягнуць без пастаяннай вучобы, прыбліжанай да баявой. Таму цяпер больш увагі ўдзяляецца агнявой падрыхтоўцы, стральбе баявымі снарадамі і ракетамі. На апошніх вучэннях, якія адбыліся вясной гэтага года, амаль усе баявыя разлікі прадэманстравалі высокія вынікі стральбы. Маючы выпадак, хачу адзначыць камандзіраў рот капітанаў Сяргея Казлова, Валянціна Пахамоўскага, Віктара Шуткова, Станіслава Несіна, Вадзіма Чувашова, Аляксандра Рошчына. Прыклад узорнага камандавання паказваюць камандзіры батальёнаў: падпалкоўнікі Пётр Берг, Генадзь Галеня, Мікалай Плахін, Валерый Вазанаў і іншыя. Спецыялістамі вышэйшай катэгорыі па праву лічацца начальнік інжынернай службы брыгады падпалкоўнік Міхаіл Еўтушэнка, начальнік хімічнай службы падпалкоўнік Мікалай Папоў, начальнік аддзялення баявой падрыхтоўкі Юрый Волкаў, начальнік службы ракетна-артылерыйскага ўзбраення падпалкоўнік Аляксандр Яроцкі.

Бездакорна нясуць службу старшыя прапаршчыкі Мікалай Ляўчук, Васіль Грыневіч, Яўген Макуца, Аляксей Мароз і іншыя.

***— А як вырашаецца жыллёвая праблема для вайскоўцаў?***

— Сёння шэсцьдзесят афіцэраў і прапаршчыкаў не маюць кватэр, трыццаць сямей ваеннаслужачых стаяць у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў. Лічу, што гэту праблему мы здолеем вырашыць ужо ў наступным годзе. Сёлета мы стварылі жыллёва-будаўнічы кааператыў па будаўніцтву 60-кватэрнага дома. Яго будаўніцтва пачнецца наступнай вясной на вуліцы Даватара. Сродкі на будаўніцтва ўжо ёсць.

***— Ці мае права камандаванне брыгады прадаваць састарэлую тэхніку, а атрыманыя грошы накіраваць на ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы часці?***

— Існуе адпаведны загад міністра абароны, які рэгламентуе, што і як прадаваць. Зараз мы маем магчымасць рэалізаваць чатыры аўтамашыны: "Урал", "ЗІЛ-130" і дзве "ГАЗ-66". Прапаноў пакуль што не паступала.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## ГРЯДЕТ ВОЕННАЯ РЕФОРМА

Приблизительно в конце лета – начале осени этого года окончательно будет утверждена Концепция реформы Вооруженных сил Беларуси, заявил президент Александр Лукашенко, выступая 7 июля на церемонии награждения выпускников командно-штабного факультета Военной академии. При этом глава государства отметил: «Нам Вооруженных сил той численности, которая есть, достаточно. Может быть, даже и немножко лишняя численность. Значит, сокращать нужно аппарат... Что касается рядового и сержантского состава – лишних не набирать. Я думаю, где-то три года – и мы стабилизируемся на нужной численности». В то же время президент подчеркнул, что речь не идет о сокращении тех, кто служит в настоящее время. По его словам, необходимо «просто по-человечески дать возможность людям выслужить срок, пойти на пенсию», «а просто так выдворять преданнейших Отечеству людей в погонах – большая глупость» – заявил А.Лукашенко.




НОВОСТИ

***

Министерство обороны направило в Совет безопасности свои предложения к проекту Концепции военной реформы в Республике Беларусь.

Согласно предложениям военного ведомства, в результате реформирования штатная численность белорусской армии должна составить 70 тысяч военнослужащих и 15 тысяч служащих. Напомним, что ныне в вооруженных силах страны насчитывается 83 тысячи военнослужащих.

***

По результатам проведенной в прошлом году аттестации офицерского состава белорусской армии 287 офицеров были уволены в запас по состоянию здоровья и в связи с выслугой лет, 219 признаны несоответствующими занимаемым должностям, 122 уволены в запас по служебному несоответствию.

***

Сейчас в офицерских кругах возможными преемниками министра обороны называют как минимум двух военачальников: первого заместителя министра обороны – начальника Главного штаба Вооруженных Сил генерал-лейтенанта Михаила Козлова и командующего войсками ПВО генерал-лейтенанта Валерия Костенко.

**БелаПАН**

# БЕЛОРУССКАЯ АРМИЯ НЕБОЕГОТОВНА

**Павел КОЗЛОВСКИЙ,**
**бывший министр обороны, генерал-полковник запаса**

**Республике Беларусь необходимо кардинальное реформирование системы национальной безопасности, обеспечивающей защиту интересов личности, общества и государства.**

И начинать работу надо с реформирования главных составляющих этой системы национальной безопасности – законодательной, исполнительной и судебной властей, государственных, общественных и иных организаций. А точнее, с восстановления в стране легитимной Конституции 1994 года, демократии, законности и порядка.

Известно, что в 1992 году вместе с развалом СССР развалились и единые силовые структуры единого государства (ВС, КГБ, МВД). Верховный Совет Беларуси принял решение создать суверенные силовые структуры, назначил их руководителей. Каждый в своем ведомстве, под себя, разрабатывал штатное расписание, стараясь сохранить или увеличить количественный состав.

Но уже в конце 1993 года стало ясно, что создана слишком громоздкая структура. В 1994 году была почти завершена новая концепция национальной безопасности. Но произошла смена руководства страны, в результате, до сих пор концепции национальной безопасности, рассмотренной и утвержденной парламентом и президентом, обнародованной через средства массовой информации, в республике нет.

Нет в Беларуси и концепции военной реформы как одной из составляющих системы национальной безопасности. Есть лишь келейно принимаемые решения, а к чему это приводит – тому много исторических примеров.

Нужна ли республике своя армия? Безусловно, но какая именно? Учитывая экономические возможности государства, сегодня и на ближайшую перспективу необходимо создать небольшие Вооруженные Силы, мобильные, под четким гражданским контролем.

Сейчас же в стране идет неконтролируемое накачивание мощи МВД, КГБ, охраны президента и других структур при тихом одновременном удушении армии как главного гаранта суверенитета и целостности государства. Вот свежий тому пример. Командующий Внутренними войсками (ВВ) генерал Юрий Сиваков в конце 1997 года направил в Совет безопасности проект концепции о выведении войск из подчинения МВД и создании отдельной структуры – думаю, личной гвардии президента. Но такая гвардия уже есть: охрана президента, с огромными правами и полномочиями, вплоть до ведения хозяйственной деятельности.

Хотя действующий в республике закон "Об обороне" гласит: "Для вооруженной защиты Республика Беларусь имеет Вооруженные Силы, а также Пограничные войска Министерства внутренних дел и части Гражданской обороны. Создание иных вооруженных формирований, не предусмотренных законодательством Республики Беларусь, не допускается".

В Беларуси есть Совет безопасности (СБ). Это нужный орган в государстве. Он то и руководит силами обеспечения безопасности: ВС, КГБ, МВД, ВВ, таможней, Железнодорожными войсками, разведкой, налоговой службой. Аналогичные белорусскому советы безопасности в РФ и США занимаются стратегическими вопросами национальной безопасности, согласованием внутренней, внешней и военной политики, обеспечением эффективного взаимодействия в этих целях всех структур национальной безопасности – армий, специальных служб, а также других правительственных ведомств и учреждений.

Расшифровка выделенных Министерству обороны на 1998 год средств еще раз подтверждает стремление властей задушить Вооруженные Силы своей страны. Законом РБ "О бюджете на 1998 год" военному ведомству предусмотрено выделить 100% денежных средств на денежное довольствие и заработную плату, но лишь 16% от потребности на все остальные расходы.

Но самое страшное то, что не спланировано выделение денежных средств на обеспечение минимально необходимой потребности по поддержанию в боевой готовности, капитальному и текущему ремонту, сервисному обслуживанию и содержанию боевой техники и вооружения. В настоящее время около 12 тысяч единиц военной техники и вооружения в белорусской армии требуют ремонта (в том числе более 80% самолетов и вертолетов, не меньшее количество систем ПВО, а также систем в Ракетных войсках и артиллерии). В войсках не хватает более 60 тысяч аккумуляторных батарей и т.д.

При 7 тысячах бесквартирных офицеров выделено средств для строительства всего лишь 400 квартир.

Есть, правда, в законе о бюджете на 1998 год и один положительный момент. Касается он разрешения Министерству обороны использовать денежные средства, полученные от реализации материально-технических ресурсов, на свои цели сверх ассигнований, предусмотренных бюджетом. Но опыт продажи вооружения последних лет показывает, что продается все, даже в ущерб обороноспособности государства комплекс противовоздушной обороны С-300 – в США, 18 истребителей МиГ-29 – в Перу, 100 танков Т-72 – в Венгрию... Контракты были заключены на 300-400 млн., долларов США. Но через бюджет эти деньги не проходят. Они оседают в тайном бюджете президента, и на них потом для главы государства закупают новейшие персональные самолет, вертолеты и корабль. Из этих же средств финансируется огромная бюрократическая машина, специальные службы. Больше всего возмущает военнослужащих то, что за вырученные деньги не построено ни одной квартиры.

Такая система руководства забирает у армии все, разрушая ее саму. Кто ответит за это? Кто ответит за то, что в свое время часть новейшей техники Белорусского военного округа сегодня бездарно продается, а часть – гибнет?

В результате белорусская армия разрушается. Огромное количество техники, систем в войсках ПВО, Военно-воздушных силах неисправно, выработало свой ресурс. Материальные запасы не пополняются. Упал ниже некуда престиж военной службы. Зато есть апломб, стремление набить цену, выдавая желаемое за действительное, объявляя себя даже якобы околоядерной державой. Министр обороны боится доложить президенту или заявить публично о небоеготовности армии. Или он не знает, или не хочет знать об истинном положении в войсках.

Я глубоко уважаю белорусский офицерский корпус, где абсолютное большинство – честные, порядочные люди, которые хотят служить в армии оснащенной, профессионально подготовленной и уважаемой своим народом. Они хотят быть профессиональными и уважаемыми в своем Отечестве людьми. Но, к сожалению, не от них зависит, какой быть белорусской армии.

**БелаПАН**



ФУТБОЛ *высшая лига*

# "КОММУНАЛЬНИК" СЫГРАЛ ВНИЧЬЮ И УЕХАЛ В "СТАЙКИ"

**Коммунальник (Слоним) — Торпедо (Минск) — 0 : 0**

**Слоним. 8 июля. Стадион "Юность". 3500 зрителей. Судья С. Шмолик (Брест).**
**Коммунальник: Киркиж, Цыбулько, Капанец, А. Дегиль, Дым (Феоктистов, 65), Янковский, Шупилов, Савицкий, Баль (к), Савонь, Татарашвили (Данилевич, 63).**
**Предупреждения: Капанец ("Коммунальник"), Павлюкович, Троско, Горовой, Черепнев ("Торпедо").**
**Конкурс "ГС" и ООО "Телкон": лучший игрок — Баль, бомбардир — Савонь (2), лучший новичок — Савонь.**

В последний раз видели болельщики "Коммунальник" в таком составе, ибо уже к началу второго круга он существенно обновится. Покинут Слоним, выставленные на трансфер, Сергей Капанец, Андрей Хмелёв, Валерий Жуковский, Сергей Врублевский, Владимир Янковский и Валерий Колядчик. В свою очередь, команду должны усилить новички: Никита Малый из "Молодечно" (это он забил в ворота "Коммунальника" три мяча в матче первого круга), бывшие "атаковцы" Александр Воронин (играл за латвийский "Вентспилс"), Евгений Анохин, Алексей и Андрей Адамицкие, Сергей Козловский, Дмитрий Капельян, Сергей Семеньков, Андрей Толмач, Александр Булойчик, Алексей Панковец и Андрей Диваков.

С 12 июля "Коммунальник" тренеруется в Стайках, под Минском. А 18 июля, в субботу, наши футболисты проведут кубковый матч 1/16 финала в Светлогорске с местным "Коммунальником". В Слоним наша команда вернётся накануне первой игры второго круга с могилёвским "Торпедо-Кадино", которая состоится 25 июля.

**Сергей ЁРШ**

## ТУРНИРНАЯ ТАБЛИЦА

**ПОСЛЕ ПЕРВОГО КРУГА**

| | | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Днепр-Трансмаш (Могилев) | 15 | 12 | 1 | 2 | 35-6 | 37 |
| 2. | Белшина (Бобруйск) | 15 | 8 | 4 | 3 | 24-8 | 28 |
| 3. | Гомель | 15 | 8 | 4 | 3 | 21-13 | 28 |
| 4. | Торпедо (Минск) | 15 | 7 | 6 | 2 | 23-8 | 27 |
| 5. | Локомотив-96 (Витебск) | 15 | 7 | 4 | 4 | 18-11 | 25 |
| 6. | Торпедо-Кадино (Могилев) | 15 | 7 | 4 | 4 | 21-17 | 25 |
| 7. | Славия (Мозырь) | 15 | 7 | 4 | 4 | 19-18 | 25 |
| 8. | БАТЭ (Борисов) | 15 | 7 | 3 | 5 | 28-20 | 24 |
| 9. | Динамо (Минск) | 15 | 6 | 3 | 6 | 20-18 | 21 |
| 10. | Неман (Гродно) | 15 | 5 | 5 | 5 | 12-18 | 20 |
| 11. | Динамо (Брест) | 15 | 6 | 1 | 8 | 18-22 | 19 |
| 12. | Динамо-93 (Минск) | 15 | 4 | 6 | 5 | 19-23 | 18 |
| 13. | Шахтер (Солигорск) | 15 | 3 | 4 | 8 | 13-30 | 13 |
| 14. | Нафтан-Девон (Новополоцк) | 15 | 3 | 2 | 10 | 15-26 | 11 |
| 15. | Молодечно | 15 | 1 | 2 | 12 | 11-31 | 5 |
| 16. | Коммунальник (Слоним) | 15 | 0 | 5 | 10 | 6-34 | 5 |

СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98

### РЕЗУЛЬТАТЫ ОСТАЛЬНЫХ МАТЧЕЙ ТУРА:

**Динамо Мн. — Гомель — 2:2**
**Молодечно — Торпедо-Кадино — 1:2**
**Нафан-Девон — Динамо-93 — 4:0**
**Шахтер — Белшина — 0:1**
**Локомотив-96 — Динамо Бр. — 0:1**
**Неман — Славия — 1:1**
**Днепр-Трансмаш — БАТЭ — 1:0**

### ПРОПУЩЕННЫЕ МАТЧИ:

**Белшина — Динамо Мн. — 4:2**
**Динамо-93 — Днепр-Трансмаш — 0:4**

## ФУТБОЛЬНАЯ СТАТИСТИКА



- В первом круге "Коммунальник" так и не познал вкуса побед, потерпел 10 поражений (из них – 6 с крупным счетом) и пять игр свел вничью (четыре ничьи были нулевыми).
- Наша команда забила меньше всех – только 6 (из них – 4 на чужом поле), а пропустила больше всех – 34 мяча. Голы у "Коммунальника" забивали: Савонь и Татарашвили – по 2, А. Дегиль и Шупилов – по 1.
- В ворота "Коммунальника" было назначено 4 пенальти (все реализованы). А вот слонимчане 11-метровые пробивают неудачно (промахнулись Дым и Татарашвили).
- В восьмом чемпионате слонимские футболисты получили 19 предупреждений. А в игре с "Динамо-93" был удален Киреня. Это единственная "красная" карточка на счету "Коммунальника".
- В трех матчах "Коммунальник" вел в счете по ходу игры, но в результате дважды проиграл (1:3 борисовскому БАТЭ и 1:2 гродненскому "Неману") и однажды сыграл вничью (1:1 с "Динамо-93").
- Семь слонимских матчей "Коммунальника" посмотрели 24700 зрителей. Больше всего болельщиков собралось на стадионе "Юность" 18 апреля на игру с БАТЭ – 5000. Меньше всего слонимчан смотрели игру "Коммунальника" с "Неманом" – 2500. А вот в гостях меньшее количество зрителей было на матчах слонимчан с минскими "Динамо" и "Динамо-93" – по 500 человек...



КОНКУРС *"ГС" и ООО "Телкон"*

## "МЫ БОЛЕЕМ ЗА НАШ ФУТБОЛ!"

| Дата | Игра | Лучший игрок | Бомбардир | Лучший новичок |
|---|---|---|---|---|
| 12.04 | Торпедо-Кадино — Коммунальник — 3:0 | Киркиж | нет | Шупилов |
| 18.04 | Коммунальник — БАТЭ — 1:3 | Баль | Татарашвили (1) | Шупилов |
| 25.04 | Динамо Бр. — Коммунальник — 0:0 | Савицкий | Татарашвили (1) | Шупилов |
| 04.05 | Коммунальник — Шахтер — 0:0 | Киркиж | Татарашвили (1) | Феоктистов |
| 09.05 | Локомотив-96 — Коммунальник — 2:0 | Киркиж | Татарашвили (1) | Киреня |
| 18.05 | Коммунальник — Днепр-Трансм. — 0:5 | нет | Татарашвили (1) | нет |
| 22.05 | Молодечно — Коммунальник — 5:2 | нет | Татарашвили (2) | нет |
| 30.05 | Белшина — Коммунальник — 5:1 | нет | Савонь (2) | нет |
| 03.06 | Коммунальник — Нафтан-Девон — 0:0 | Баль | Савонь (2) | Савонь |
| 10.06 | Динамо Мн. — Коммунальник — 3:0 | нет | Савонь (2) | нет |
| 14.06 | Коммунальник — Неман — 1:2 | А.Дегиль | Савонь (2) | нет |
| 18.06 | Славия — Коммунальник — 2:0 | нет | Савонь (2) | нет |
| 25.06 | Коммунальник — Гомель — 0:3 | нет | Савонь (2) | нет |
| 01.07 | Динамо-93 — Коммунальник — 1:1 | Савонь | Савонь (2) | Шупилов |
| 08.07 | Коммунальник — Торпедо — 0:0 | Баль | Савонь (2) | Савонь |

*После первого круга лидируют*: лучший игрок — **Киркиж** и **Баль**, бомбардир — **Савонь** и **Татарашвили** (по 2 забитых мяча), лучший новичок — **Шупилов**.



## Календарь игр VIII-го национального чемпионата и кубка РБ по футболу

второй круг

**16 ТУР 25 июля (сб)**
Белшина — Славия
Неман — Гомель
Динамо Мн — Динамо-93
Нафтан-Девон — Торпедо
**Коммунальник — Торпедо-Кадино**
Молодечно — БАТЭ
Днепр-Трансмаш — Динамо Бр
Локомотив-96 — Шахтёр
**17 ТУР 1 августа (сб)**
Шахтёр — Днепр-Трансмаш
Динамо Бр — Молодечно
**БАТЭ — Коммунальник**
Торпедо-Кадино — Нафтан-Девон
Динамо-93 — Неман
Гомель — Славия
**2 августа (вс)**
Торпедо — Динамо Мн
Локомотив-96 — Белшина
**18 ТУР 7 августа (пт)**
Белшина — Гомель
Динамо Мн — Торпедо-Кадино
**8 августа (сб)**
Славия — Динамо-93
Неман — Торпедо
Нафтан-Девон — БАТЭ
**Коммунальник — Динамо Бр**
Молодечно — Шахтёр
Днепр-Трансмаш — Локомотив-96
**19 ТУР 14 августа (пт)**
Торпедо-Кадино — Неман
Динамо-93 — Гомель
**15 августа (сб)**
Днепр-Трансмаш — Белшина
Локомотив-96 — Молодечно
**Шахтёр — Коммунальник**
Динамо Бр — Нафтан-Девон
БАТЭ — Динамо Мн
Торпедо — Славия
**20 ТУР 21 августа (пт)**
Белшина — Динамо-93
Динамо Мн — Динамо Бр
**22 августа (сб)**
Гомель — Торпедо
Славия — Торпедо-Кадино
Неман — БАТЭ
Нафтан-Девон — Шахтёр
**Коммунальник — Локомотив-96**
Молодечно — Днепр-Трансмаш
**21 ТУР 28 августа (пт)**
**Днепр-Трансмаш — Коммунальник**
**29 августа (сб)**
Молодечно — Белшина
Локомотив-96 — Нафтан-Девон
Динамо Бр — Неман
БАТЭ — Славия
Торпедо-Кадино — Гомель
Торпедо — Динамо-93
**30 августа (вс)**
Шахтёр — Динамо Мн
**22 ТУР 2 сентября (ср)**
Белшина — Торпедо
Динамо-93 — Торпедо-Кадино
Гомель — БАТЭ
Славия — Динамо Бр
Неман — Шахтёр
Нафтан-Девон — Днепр-Трансмаш
**Коммунальник — Молодечно**
**3 сентября (чт)**
Динамо Мн — Локомотив-96
**23 ТУР 8 сентября (вт)**
Торпедо-Кадино — Торпедо
**9 сентября (ср)**
**Коммунальник — Белшина**
Молодечно — Нафтан-Девон
Днепр-Трансмаш — Динамо Мн
Локомотив-96 — Неман
Шахтёр — Славия
Динамо Бр — Гомель
БАТЭ — Динамо-93
**24 ТУР 12 сентября (сб)**
Белшина — Торпедо-Кадино
Динамо Мн — Молодечно
**13 сентября (вс)**
Торпедо — БАТЭ
Динамо-93 — Динамо Бр
Гомель — Шахтёр
Славия — Локомотив-96
Неман — Днепр-Трансмаш
**Нафтан-Девон — Коммунальник**
**25 ТУР 20 сентября (вс)**
Нафтан-Девон — Белшина
**Коммунальник — Динамо Мн**
Молодечно — Неман
Днепр-Трансмаш — Славия
Локомотив-96 — Гомель
Шахтёр — Динамо-93
Динамо Бр — Торпедо
БАТЭ — Торпедо-Кадино
**КУБОК БЕЛАРУСИ**
**23 сентября (ср)**
Матчи 1/8 финала
**26 ТУР 26 сентября (сб)**
Белшина — БАТЭ
Динамо Мн — Нафтан-Девон
**27 сентября (вс)**
Торпедо-Кадино — Динамо Бр
Торпедо — Шахтёр
Динамо-93 — Локомотив-96
Гомель — Днепр-Трансмаш
Славия — Молодечно
**Неман — Коммунальник**
**27 ТУР 4 октября (вс)**
Динамо Мн — Белшина
Нафтан-Девон — Неман
**Коммунальник — Славия**
Молодечно — Гомель
Днепр-Трансмаш — Динамо-93
Локомотив-96 — Торпедо
Шахтёр — Торпедо-Кадино
Динамо Бр — БАТЭ
**28 ТУР 16 октября (пт)**
Торпедо — Днепр-Трансмаш
**17 октября (сб)**
Белшина — Динамо Бр
БАТЭ — Шахтёр
Торпедо-Кадино — Локомотив-96
Динамо-93 — Молодечно
**Гомель — Коммунальник**
Славия — Нафтан-Девон
Неман — Динамо Мн
**29 ТУР 24 октября (сб)**
Неман — Белшина
Динамо Мн — Славия
Нафтан-Девон — Гомель
**Коммунальник — Динамо-93**
Молодечно — Торпедо
Днепр-Трансмаш — Торпедо-Кадино
Локомотив-96 — БАТЭ
Шахтёр — Динамо Бр
**30 ТУР 31 октября (сб)**
Белшина — Шахтёр
Динамо Бр — Локомотив-96
БАТЭ — Днепр-Трансмаш
Торпедо-Кадино — Молодечно
**Торпедо — Коммунальник**
Динамо-93 — Нафтан-Девон
Гомель — Динамо Мн
Славия — Неман

